

# Мазырскія Навіны

*Гавары - і цябе пачуюць*

**верасень, 2013**

ГРАМАДСКАЕ ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ВЫДАННЕ

## Уладзімір Целяпун адказаў ананімным супрацоўнікам АП-2

У пачатку жніўня грамадскія актывісты Мазыра правялі інфармацыйную акцыю па інфармаванні грамадзян горада аб тым, што 4 жніўня адзначаецца Дзень міжнароднай салідарнасці з грамадзянскай супольнасцю Беларусі. Гэты Дзень салідарнасці адзначаецца 4-га жніўня - дзень зняволення кіраўніка “Праваабарончага цэнтра “Вясна”, віцэ-прэзідэнта Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека Алеся Бяляцкага.

Нехта з грамадскіх актывістаў размясціў інфармацыйныя матэрыялы (паштоўкі з выявай Алеся Бяляцкага, буклеты аб наяўнасці ў Беларусі палітычных вязняў і іншыя) на інфармацыйных стэндах у аўтобусах, прыпынках і іншых грамадскіх месцах.

Чамусьці супрацоўнікі Аўтобуснага парку №2 г Мазыра палічылі што гэта зрабіў менавіта адзін жыхар Мазыра, мясцовы праваабаронца Уладзімір Целяпун.

18 жніўня ён атрымаў па пошце ліст ад супрацоўнікаў Аўтобуснага парку №2 (менавіта так быў падпісаны гэты ліст). На капэрце і ў самім лісце няма прозвішчаў і пасады ніводнага супрацоўніка…

У сваім звароце да праваабаронцы ананімныя супрацоўнікі Аўтапарку №2 просяць “перастаць незаконна распаўсюджваць *свае* паштоўкі, буклеты, бюлляртэні і іншыя пячатныя выданні шляхам іх размяшчэння ў *нашых* гарадскіх аўтобусах, на інфармацыйных стэндах аўтобусных прыпынкаў і *іншых месцах нашай службовай дзейнасці”.* І яшчэ супрацоўнікі скардзяцца, што “ад рукаводства прадпрыэмства нам паступіла нарада ўбраць наступствы вашых дзеяній, ўрэшце чаго каб выняць паштоўкі з выявай А. Бляцкага адзельныя інфармацыйныя стэнды былі вымусова надламаныя і пашкоджаныя. Рамантаваць іх давялося за асабісты кошт.”

Акрамя скаргі супрацоўнікі АП-№2 прапануюць праваабаронцу Уладзіміру Целяпуну заключыць дамову: - “вы не забруджваеце нас сваім ўлеткамі і не перашкаджаеце нам выконваць свае абавязкі належным чынам, а мы не вынашваем да вас намеры помствы і прыцягнення да адміністратыўнай адказнасці па ст. 12.15 КаАП Рэспублікі Беларусь”.

Анамніныя супрацоўнікі Аўтобуснага парку №2 не прапануць праваабаронцу пісьмова заключыць з імі пагадненне, а лічаць, што “сведчаннем вашай згоды і дамовы з намі будзе адсутнасць сведак аб гэтай паштоўцы у Інтэрнеце ці іншых СМІ, а таксама адсутнасць вашых улетак і паштовак на нашых аб’ектах”.

***Якое меркаванне самага Уладзіміра Целяпуна па зместу гэтага ліста “ад супрацоўнікаў Аўтобуснага парку №2 г. Мазыра”?***
***Ён перадаў у рэдакцыю МН свой ліст да кіраўніцтва і супрацоўнікаў АП-2***




“Паважаныя супрацоўнікі Аўтобуснага парку №2 г. Мазыра!

Дзякуй Вам за ваш ліст. Мяне, канешна, цешыць такая ўвага супрацоўнікаў Аўтапарку №2 і адзнака маёй асабістай дзейнасці. Аднак у Мазыры ёсць і іншыя грамадскія актывісты і неабавязкова я павінен ведаць пра іх дзеянні, а тым больш уплываць на іх дзейнасць і даваць ім парады дзе, што і як рабіць. Калі у вас ёсць факты па маім асабістым удзеле ў гэтай акцыі – я гатовы абмеркаваць і, калі нечым пашкодзіў вашай дзейнасці, гатовы прынесці свае прабачэнні.

Аднак, калі гэты зварот асабіста да мяне ад вялікага калектыву Аўтапарку №2 (хаця атрымаўшы ліст, я пытаўся некаторых кіроўцаў аўтобусаў, работнікаў гэтага прадпрыемства пра іх зварот да мяне – яны нічога не ведаюць пра гэта), у мяне ёсць пытанні і ўдакладненні да гэтай віртуальнай дамовы.

**Па-першае**, я жадаў бы ведаць межы “іншых месцаў” вашай службовай адказнасці. Хаця б дзеля таго, каб самім і раіць іншым актывістам іх не парушаць…

**Па-другое**, нарэшце кіраўніцтва АП-2 звярнула ўвагу на стэнды ў аўтобусах і на прыпынках. Калі б гэта яны зрабілі раней, то заўважылі б, што шмат іх паламана, маюць брудны выгляд, інфармацыя там да таго даўняя і не актуальная, на выцвелых ад часу лістах папера, парваная, што неяк няёмка становіцца перад гасцямі горада…

У 2007-м і 2010 годзе я балатаваўся ў дэпутаты Гомельскага абланога Савета дэпутатаў. У сваіх выбарчых улётках я прызываў кіраўніцтва горада звярнуць ўвагу на ўскрайкі горада, адрамантаваць

*Працяг...*

вуліцы, двары... ня толькі ж цэнтр горада павінен выглядаць прыгожа... Мяне здымалі з рэгістрацыі, аднаўлялі ў статусе кандыдата перад самім днём выбараў, тыпаграфіі адмаўляліся друкаваць маю агітацыйную праграму... Аднак сёння кіроўцам гарадскіх аўтобусаў прыемна ехаць па асфальтаваных вуліцах Мазыра.

Калі Вы маеце намер прыцягнення мяне да адміністратыўнай адказнасці, то той, хто даў Вам мой адрас і інфармацыю пра мой асабісты ўдзел у гэтай акцыі, павінны былі падмацаваць гэта фактамі ... А так, гэта можа выглядаць, як запалохванне, абраза гонару і годнасці і дзелавой рэпутацыі...

Скажэнне прозвішча віцэ-прэзыдэнта Міжнароднай фэдэрацыі за правы чалавека А. Бяляцкага не надае вам гонару, адукаванасці... аднак гэта можна лічыць проста памылкай, якіх шмат у вашым звароце на трасянцы (нас, беларусаў, усіх вучылі свайму беларускаму, чаму-небудь і як-небудь....).

А гэта ўжо ня толькі артыкулы Адміністратыўнага кодэкса...

Мяне гэтым не запалохаеш... Ёсць Закон і калі я яго парушыў, складаюцца адпаведныя, адказнымі асобамі, працэсуальныя дакумэнты і я гатовы адказаць за свае дзеянні па Законе...

З 2011 года я праз суды дабіваюся правесці масавае мерапрыемства, каб публічна выказаць сваё меркаванне, праявіць салідарнасць з кіраўніком "Праваабарончага цэнтра "Вясна" Алесем Бяляцкім, з іншымі палітычнымі вязьнямі Беларусі ... Мясцовыя ўлады мне забараняюць гэта зрабіць , нават, адпаведна Закону "Аб масавых мерапрыемствах", на афіцыйна прызначаным месцы стадыёне "Спартак", пра каторы ў Мазыры ўсе забыліся... Нядаўна я атрымаў ліст з Вярхоўнага Суда, куды я звяртаўся са скаргай з мэтай нагляду на неадпаведнасць закону рашэнняў Мазырскага райвыканкама, суда Мазырскага раёна, Гомельскага абласнога суда... Вярхоўны Суд у асобе намесніка Вярхоўнага суда наклаў пратэст і справа накіравана на разгляд у прэзыдыюм Гомельскага абласнога суда.

Пра размяшчэнне інфармацыі праз інтэрнэт ці іншыя СМІ...- А супрацоўнікі Аўтобуснага парку №2 прапануюць іншы шлях быць пачутым у нашым дэмакратычным грамадстве?

Галоснасць – вялікая рэч! Хто б ведаў дырэктара нейкага захудалага саўгаса "Гарадзец", каб не абвешчаная Гарбачовым галоснасць і перабудова... Толькі дзякуючы гэтаму, прамым трансляцыям з паседжанняў Вярхоўнага Савету, дзе выступаючы "ад шостага мікрафона з задняга прахода", магчыма было стаць кіраўніком краіны, а потым згвалціць Канстытуцыю і ажыццявіць рэйдэрскі захоп краіны больш чым на 20 год. За падобныя дзеянні ў бізнесе ў Беларусі пачынаецца захоп алігархаў суседняй краіны... Свае бізнесоўцы, кіраўнікі прадпрыемстваў, хто не працуе на "сям'ю", ўжо усе ў турмах...

Паважаныя супрацоўнікі АП-2! Ёсць асноўны закон краіны, Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь - "**Статья 34.** Гражданам Республики Беларусь гарантируется право на получение, хранение и распространение полной, достоверной и своевременной информации о деятельности государственных органов, общественных объединений, о политической, экономической, культурной и международной жизни, состоянии окружающей среды...".

Супрацоўнікі АП-2 супраць Канстытуцыі?...

Для інфармацыі дасылаю вам матэрыялы па маёй дзейнасці.

Дадатковую інфармацыю вы можаце атрымаць на сайтах: **spring96.org**,**svaboda.org**,**belaruspartizan.org**, **gomelcivil.org**, **gomelspring.org**.

З павагай да ўсіх супрацоўнікаў Аўтобуснага парку №2 г. Мазыра

Уладзімір Целяпун
+375 29 2305728

## Мазырскія школьнікі атруціліся глазураванымі сыркамі

Гомельскі абласны цэнтр гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя ўстанавіў прычыну масавага атручэння школьнікаў у Мазыры.

Як паведамілі ў цэнтры гігіены, дзеці трапілі ў бальніцу з-за інфекцыйнага агента ў глазураваных сырках, якія давалі ў той дзень на сняданак у сталовых. Цяпер устанаўліваецца крыніца заражэння і высвятляецца, на якім этапе — захоўвання ці перавозкі — інфекцыйны агент трапіў у сыркі.

Нагадаем, у інфекцыйнае аддзяленне Мазырскай гарадской бальніцы 19 і 20 верасня брыгады хуткай дапамогі даставілі 71 школьніка, пераважна вучняў пачатковых класаў. Дзяцей даставілі з першасным дыягназам «харчовае атручэнне». Большасць пацярпелых пасля аказання першай медыцынскай дапамогі — прамывання страўніка — былі адпушчаны дамоў. Трынаццаць чалавек шпіталяваны. Ім паставілі дыягназ «харчовая таксікаінфекцыя».

Па факце масавага атручэння дзяцей упраўленне СК па Гомельскай вобласці распачало справу на падставе ч. 1 арт. 336 Крымінальнага кодэкса (парушэнне санітарна-эпідэмічных правіл).

БелаПАН

## Свята Абраза Маці Божай Юравіцкай



13 верасьня ў Мазырскім Свята-Міхайлаўскім саборы адбылося ўшанаванне Абраза Маці Божай Юравіцкай. Пасля ўрачыстага богаслужэння Абраз Маці Божай Юравіцкай быў Хросным ходам дастаўлены ў Юравіцкі манастыр.

Шмат хрысціян – праваслаўных і каталікоў, прыйшло ў гэты дзень ў храмы каб пакланіцца і памаліцца Святыні, якую лічаць апякункаю Мазырскага Палесся.

У выдадзеным у 1742 годзе ў Познані багаслоўскім сачыненні "Крыніца ласак духоўныхДзевы Марыі з гор Юравіцкіх" прыведзена мноства цудадзейных выратаванняў, звязаных з абразам Маці Божай Юравіцкім: гэта ўваскрашэнне ў 1686 годзе ў час жалобнай працэсіі сына юравіцкага верніка Прыгародскага, уваскрашэнне загінулага ў 1724 годзе пры пажары сына мазырскага земскага пісарчука Тэафіла Лянкевіча, выратаванне ў 1730 годзе патанулага юравіцкага жыхара Руткоўскага.

# Затрыманні дэлегатаў устаноучай канферэнцыі па стварэнні кааліцыі “За сумленныя, справядлівыя выбары для лепшага жыцця”



10.00. У нядзелю, 22 верасня, па дарозе з Гомеля ў Мінск (ад’ехаўшы прыкладна 20 км ад Рэчыцы) быў затрыманы прыватны мікрааўтобус “Фіат” з 8 дэлегатамі ўстаноучай канферэнцыі па стварэнні кааліцыі “За сумленныя, справядлівыя выбары для лепшага жыцця”, дзевяты затрыманы – кіроўца.

Па словах аднаго з затрыманых — Уладзіміра Кацоры, мікрааўтобус быў спынены супрацоўнікамі Рэчыцкага ДАІ пад кіраўніцтвам маёра Ігара Лапаціна і капітана Васільчука на падставе таго, што транспартны сродак вельмі падобны на той, на якім 17 верасня было здзейснена ДТП, у якім пацярпела жанчына.

Быў таксама праведзены агляд мікрааўтобуса, у выніку якога высветлілася, што пад капотам таблічка прымацавана рознымі заклёпкамі.

На падставе гэтых двух названых прычын мікрааўтобус разам з пасажырамі быў дастаўлены ў Рэчыцкі райаддзел міліцыі. Кіроўца выкліканы для разбіральніцтва ў РУУС, пасажыры застаюцца чакаць яго і вынікаў разбіральніцтва ў мікрааўтобусе.

11.00. Па невядомых падставах у кіроўцы запатрабавалі зрабіць адбіткі пальцаў і зняцца на відэа. Дактыласкапічныя дадзеныя былі знойдзены ў базе міліцыі, а здымацца на відэа без удакладнення статуса кіроўца адмовіўся.

Супрацоўнікі ДАІ паведамілі затрыманым дэлегатам, што іх цікавіць толькі кіроўца, а самі яны могуць быць вольнымі.

11.50. Праваабаронца Леанід Судаленка паведаміў, што кіроўца адпушчаны. Супрацоўнікі ДАІ сказалі, што выклічуць яго асобна позвай, каб высветліць сітуацыю з біркай пад капотам.

Дэлегаты вырашылі праверыць, ці сапраўды яны могуць быць вольнымі, і адышлі ад аддзялення міліцыі. Іх не затрымлівалі. Пасля вызвалення кіроўцы ўсе накіраваліся ў Гомель, паколькі ехаць у Мінск на ўстаноўчы сход аказалася ўжо позна і нямэтазгодна.

10.40. Старшыня АГП Анатоль Лябедзька паведаміў у сваім Фэйсбуку пра затрыманне двух дэлегатаў устаноўчай канферэнцыі з Барысава: Льва Марголіна і Лыско.

# Гомельскія дэмакраты патрабуюць узбудзіць крымінальную справу за незаконнае затрыманне

Гомельскі грамадскі дзеяч Уладзімір Кацора 23 верасня даслаў заяву пракурору Гомельскай вобласці і начальніку УУС Гомельскага аблвыканкама аб здзяйсненні супрацоўнікамі міліцыі крымінальнага злачынства. У сваёй заяве палітык тлумачыць, што 22 верасня па дарозе Гомель - Мінск супрацоўнікі ДАІ УУС Гомельскага аблвыканкама дагналі на службовым аўтамабілі прыватны мікрааўтобус, у якім знаходзіліся дэлегаты рэспубліканскай Канферэнцыі па стварэнні кааліцыі “За сумленныя, справядлівыя выбары для лепшага жыцця”.

Маёр Ігар Лапацін і капітан Сяргей Васільчук першапачаткова прычыну пераследу і спынення мікрааўтобуса з дэлегатамі рэспубліканскай Канферэнцыі патлумачылі тым, што мікрааўтобус «падобны» на той, які з’яўляўся ўдзельнікам ДТЗ. Пасля прымусовай дастаўкі транспартнага сродку разам з дэлегатамі ў аддзяленне міліцыі Рэчыцы «версія» супрацоўнікаў міліцыі памянялася, цяпер ім «спатрэбілася» зняць адбіткі пальцаў у кіроўцы мікрааўтобуса.

Пасля таго, як супрацоўнікі міліцыі пераканаліся ў тым, што кіроўца раней праходзіў дактыласкапію, яны запатрабавалі ад яго прайсці запіс на відэакамеру. У рэшце рэшт, супрацоўнікі міліцыі пачалі вылучаць неабгрунтаваныя прэтэнзіі да нумара кузава транспартнага сродку, пасля чаго, прыкладна праз тры гадзіны пасля прымусовага затрымання, адпусцілі вадзіцеля без прад’яўлення якіх-небудзь прэтэнзій і без складання якіх-небудзь працэсуальных дакументаў.

«У выніку неабгрунтаванай перашкоды з боку супрацоўнікаў міліцыі дэлегаты не змаглі прыняць удзел у працы рэспубліканскай Канферэнцыі ў Мінску, тым самым у іх дзеяннях ўгледжваецца склад крымінальнага злачынства, прадугледжанага артыкулам 194 КК Рэспублікі Беларусь, а менавіта перашкода законнай дзейнасці грамадскіх аб’яднанняў альбо ўмяшальніцтва ў іх законную дзейнасць, якія пацягнулі істотнае парушэнне іх правоў і законных інтарэсаў, - піша ў заяве палітык. - Ад імя дэлегатаў рэспубліканскай Канферэнцыі па стварэнні кааліцыі “За сумленныя, справядлівыя выбары для лепшага жыцця” заяўляю, што ў



*Уладзімір Кацора*

дадзеным канкрэтным выпадку мела месца выкарыстання падначаленых Вам па службе супрацоўнікаў міліцыі ў палітычным «вышуку». Дэлегаты рэспубліканскай Канферэнцыі па стварэнні кааліцыі “За сумленныя, справядлівыя выбары для лепшага жыцця” патрабуюць па выкладзеных фактах правесці службовую праверку, па выніках якой ўстанавіць службовую асобу, якая аддае загад на пераслед і неабгрунтаванае затрыманне дэлегатаў. А таксама ўзбудзіць у дачыненні да гэтай службовай асобы і пералічаных супрацоўнікаў міліцыі крымінальную справу па прыкметах крымінальнага злачынства».

http://spring96.org/be/news/65999

# Наш выбор – справедливые выборы для лучшей жизни!

На протяжении нескольких месяцев политические партии, общественные объединения проводили консультации на двух и многосторонней основе о формате взаимодействия и действиях, направленных на возвращение Беларуси к демократии.
Итогом коммуникаций стало общее решение об объединении усилий в рамках общенациональной кампании “За справедливые выборы для лучшей жизни”. Презентация кампании и плана совместной работы состоится 2 сентябре текущего года.
Перечисление структур:

***ГРАЖДАНСКИЙ АЛЬЯНС ЗА СПРАВЕДЛИВЫЕ ВЫБОРЫ ДЛЯ ЛУЧШЕЙ ЖИЗНИ «ТОЛОКА»***

**СОГЛАШЕНИЕ**

Мы, полномочные представители политических партий, профсоюзов, общественных объединений и инициатив, утверждаем, что:

· по вине правящей авторитарной клики в Беларуси нарастают социально-экономический кризис, коррупция, правовой беспредел. Политика власти создает угрозу для независимости, экономического развития и благополучия страны;

· власть все более теряет доверие народа, но граждане Беларуси лишены права и возможности влиять на ее действия, по своей воле избирать президента, депутатов Палаты представителей и местных Советов;

· чтобы удержаться у власти, режим подавляет инакомыслие, преследует своих политических противников, ограничивает свободу слова, собраний и ассоциаций, фальсифицирует выборы. В тюрьмы брошены десятки политзаключенных, многие беларусы вынуждены покидать Родину.

Мы уверены, что действующий в Беларуси авторитарный режим несовместим с демократией и не намерен осуществлять никаких демократических реформ, а потому попытки интегрировать оппозицию в систему авторитарной власти или искать с ней компромисса, жертвуя демократическими и гуманистическими принципами, бесперспективны и аморальны.

Главная причина проблем Беларуси – безответственная и бесконтрольная авторитарная власть. Только вернув гражданам право и возможность контролировать и свободно избирать руководство страны, можно остановить нарастание кризиса и падение уровня жизни, защитить независимость страны и достоинство ее народа.

Наша цель – вернуть гражданам Беларуси отнятые у них законные права, в первую очередь, право свободного выбора власти и курса страны. Беларусь должна быть независимой, демократической, европейской страной. Для достижения этой цели мы объединяем наши усилия и намерены использовать любые возможности, предусмотренные Конституцией и международными соглашениями о правах человека. Мы создаем **Гражданский альянс за справедливые выборы для лучшей жизни «Толока»** и выражаем свою убежденность в том, **что**:

· способом устранения авторитарного режима должны стать справедливые выборы;

· для достижения поставленной цели необходимо объединение усилий не только политических структур, но большинства сторонников перемен, включая независимые профсоюзы, общественные организации, правозащитников, экологические и социальные инициативы, свободные СМИ и неравнодушных граждан;

· программные различия, корпоративные или личные амбиции не должны и не будут являться препятствием для нашей совместной деятельности;

· имея общее видение повестки дня перемен для лучшей жизни наших граждан, мы будем стремиться создать единую стратегию действий, сформировать единую команду и определить единого кандидата от Альянса на выборы в президенты.

· для привлечения людей на свою сторону необходимо использовать все возможные законные средства работы с обществом, в том числе и кампанию «местные выборы», отмечая, что необходимых условий для реальных выборов в нашей стране пока нет;

Участники **Соглашения** обязуются соблюдать его принципы и всемерно способствовать повышению эффективности деятельности Альянса.

**Соглашение** открыто для присоединения всем политическим и общественным силам, которые готовы внести свой вклад в достижение поставленной цели.

*Мазырскія* **НАВІНЫ**
ГРАМАДСКА-ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ВЫДАННЕ
Наклад 299 асобнікаў
Эл. адрас рэдакцыі: mazyrcivil@gmail.com